Няхай жыве саюз рабочых і сялян!

# ЧЫРВОНЫ СЕЙБІТ

Двухтыднёвы літаратурна-мастацкі дадатак да „Беларускай Вёскі“

№ 4 5-га сьнежня 1926 г. № 4

*3-годзьдзю „Маладняка“ прысьвечае гэты нумар*
*Рэдакцыя „Беларускай Вёскі“*

## Прывітаньне „Маладняку“



Зараз „Маладняк“ мае ў сваіх радох больш 500 таварышоў, з якіх 123 — правадзейныя сябры; яны яднаюцца ў 11 філіях. За апошнія гады „Маладняк“ на старонках друку Беларусі даў шмат новых, каштоўных літаратурных твораў. „Маладняк“ —дзіця Кастрычніка. Вось чаму яго рост радуе кожнага рабочага, комуністага, комсамольца, кожнага актыўнага барацьбіта за справу Кастрычнікавае рэволюцыі, за смычку рабочае клясы в сялянствам, за соцыялістычнае будаўніцтва.

Самае каштоўнае ў „Маладняку“— гэта тое, што „Маладняк“ зьяўляецца шырокаю організацыяй, якая уцягнула ў свае рады шмат рэволюцыйных сіл рабочых і сялян, што ўся літаратурная і выхаваўчая праца „Маладняка“ і маладнякоўцаў шчыльна ўвязваецца з палітычнаю працаю і барацьбою рабочае клясы і сялянства, комсамолу, комуністычнае партыі. Гэтыя два моманты зьяўляюцца важнаю гарантыяй таго, што і далей „Маладняк“ здолее выхоўваць сваіх сяброў у духу дыктатуры пролетарыяту і пролетарскае лініі ў літаратуры,—гарантыяй таго, што „Маладняк“ на справе здолее ўсё больш рэалізаваць сваю волю і жаданьне— быць організацыяй пролетарскіх пісьменьнікаў, што ў гэтым напрамку „Маладняк“ здолее з сялян і сялянскіх інтэлігентаў выпрацаваць поэтаў і літаратараў, якія дадуць селяніну літаратуру ў поўнай меры пролетарскую па зьместу.

„Маладняк“ расьце. Не зважаючы на размовы,—праўда, ня шматлікіх — простых, а таксама і несьвядомых ворагаў яго пролетарскае тэндэнцыі, яго ў асноўным пролетарскае сутнасьці, не зважаючы на размовы прыхільнікаў „нэўтральнае“, „па-заклясавае“ літаратуры, „чыстага мастацтва“, не зважаючы на вялікія цяжкасьці росту ў нашай культурна-адсталай рэспубліцы,—не зважаючы на гэта „Маладняк“ і далей будзе расьці і мацнець, як асноўная ў Беларусі рэволюцыйная організацыя літаратараў, якая стаіць на правільнай пролетарскай позіцыі, якая вучыцца на ўласных памылках.

Пасылаю маё гарачае таварыскае прывітаньне маладнякоўцам. Мае лепшыя пажаданьні, каб „Маладняк“, не палохаючыся хворасьцяй і цяжкасьцяй росту, пасоўваўся наперад; каб „Маладняк“ дапамагаў сваім сябром зжываць памылкі і вывіхі ў бок ад пролетарскае лініі; каб „Маладняк“ здолеў-бы перавыхаваць тых сваіх сяброў, у якіх яшчэ ёсьць рэшткі залішняе самаўпэўненасьці, адсутнасьць крытычных адносін да сябе, некаторае боязьні крытыкі; каб „Маладняк“ сам здолеў-бы ўзяць чынны ўдзел у організацыі агню такое крытыкі, у якім-бы выпальвалася ўсякая— няўхільная—іржа і выкоўвалася-б сапраўдная пролетарская організацыя.

Жадаю „Маладняку“ яшчэ больш зблізіцца з комсамолам, як з організацыяй, якая ідэёва жывіць „Маладняк“, перавыхаваць тых сваіх таварышоў, якія яшчэ не адмовілася канчаткова ад рэшткі ня-

важлівых адносін да комсамолу, у якім, праўда, шмат „недаволі пісьменных“, „недаволі культурных“ маладых рабочых і сялян, але ў якім ёсьць сіла рэволюцыйнае, пролетарскае організацыі, якая аб'яднае рабочых і сялян на аснове практыкі пролетарскае рэволюцыі, вучобы і працы над Ленінным.

Жадаю „Маладняку“ і надалей умець карыстацца кіраўніцтвам комуністычнае партыі, даражыць гэтым кіраўніцтвам і перавыхаваць тых сваіх таварышоў, у якіх захаваліся хаця-б маленькія рэшткі нядобрых адносін да кіраўніцтва партыі пролетарыяту, якая, вібыта, „сьціскае багатыя індывідуальнасьці“, „перашкаджае“ росквіту організацыі поэтаў і літаратараў

Шчыра жадаю „Маладняку“ добра організаваць для сваіх таварышоў тэорытычную і агульна-культурную самаапрацоўку на аснове ўсяго багацьця чалавечых ведаў, вучэньня Маркса і Леніна і рэволюцыйнае практыкі пролетарыяту

**А. Крыніцкі.**

# „МАЛАДНЯКУ“

Комуністычная Партыя утварыла „МАЛАДНЯК“, каб упягуць у соцыялістычнае будаўніцтва, галоўным чынам, шляхам мастацкага афармленьня новай пролетарскай ідэалёгіі, рабочую і сялянскую моладзь.

Толькі тры гады жыве „Маладняк“, але свой шлях—шлях соцыялістычнага будаўніцтва ён прашоў сямімільнымі крокамі.

Насеньне, якое параскідала компартыя праз „Маладняк“ дае ў сучасны момант добрыя ўсходы ў якасьці шэрагу таленавітых пісьменьнікаў і мастакоў з вытрыманай клясавай пролетарскай самасьвядомасьцю. Далейшае пашырэньне і паглыбленьне агульнага соцыялістычнага будаўніцтва Сав. Беларусі патрабуе ад „Маладняка“ паглыбленьня сваёй працы. На гэты шлях „Маладняк“ ужо ступіў.

Пажадаем „Маладняку“ ўсяго найлепшага і будзем дапамагаць яму, неабходнай частцы агульнай сыстэмы соцыялістычнага будаўніцтва Савецкай Беларусі.
27-XI-26 г.

**А. Чарвякоў.**

---

Вітаю „Маладняк“ у дзень яго трохгодзьдзя. Вітаю, як маладых культурнікаў. Вітаю, як культурнікаў, нясучых новую беларускую культуру ў глухія куткі Савецкай Беларусі. Маленькія кніжачкі „Маладняка“ маюць добры звычай заходзіць далёка далёка. Яны ходзяць ня толькі па вёсках, мястэчках і гарадох Беларусі, яны пападаюць і на закардонную Беларусь.

Думкі „Маладняка“ радзіліся раней, чым тры гады таму назад. Яны радзіліся тады, калі босыя змагаліся на вогнішчы, калі грымелі пяруны Кастрычнікавай Рэволюцыі. „Маладняк“ ёсьць сын Кастрычнікавай Рэволюцыі. Заданьне яго тварыць элемэнты пролетарскай культуры. Лічу, што сваё заданьне ён выканае.

**У. Ігнатоўскі.**

---

Яўрэйская сэкцыя „Вапна“ на Беларусі „Юнгер-Арбэйтэр“ шле шчырае прывітаньне сваёй братэрскай організацыі рабоча-сялянскіх пісьменьнікаў „Маладняку“ ў дзень яго трохгадовага юбілею.

Яўрэйская пролетарская літаратура з вялікай увагай сочыць за цяжкай працай, якая праводзіцца „Маладняком“ па стварэньні пролетарскай літаратуры на беларускай мове.

За тры гады сваёй працы „Маладняк“ праклаў сабе шлях да самых шырокіх колаў працоўных, зрабіўся масавай літаратурнай організацыяй, якая зьяўляецца найвялікшым фактарам нашай ленінскай культурнай рэволюцыі.

Мы пераконаны, што масавы характар „Маладняка“ дапаможа ўсёй маладой беларускай літаратуры ўзьняць мастацкую вартасьць яе творчасьці да таго ўзвышша, да якога імкнуцца абедзьве маладыя літаратуры—беларуская і яўрэйская.

Няхай жыве саюз беларускіх і яўрэйскіх пісьменьнікаў!

**Бюро Яўсэкцыі „Вапна“ ў Беларусі („Юнгер-Арбэйтэр“).**

Я. Адамовіч

# Заметкі аб маладняку і літаратуры

Эпохі боек і рэволюцый выклікаюць на некаторы пэрыод часовы застой у літаратуры і мастацтве. Гэта зразумела: у эпоху, калі разгортваюцца вялізныя падзеі, нельга заставацца бязуважлівым глядачом, стаяць з боку ад падзей і об'ектыўна разьбірацца ў тым, што адбываецца. Але калі такі пэрыод часу праходзіць, калі гады непасрэдных боек скончыліся, калі ўзьнімаюцца выкліканыя рэволюцыяй да жыцьця новыя пласты, тады зноў разгортваецца жыцьцё ва ўсіх яго праявах, і літаратура, і мастацтва зноў ажываюць дзеля таго каб асьвятліць, увекавечыць у сваіх творах асобныя эпізоды, асобных гэрояў і наогул—мінулы пэрыод гэроічных боек новай клясы. Так было пасьля французскай рэволюцыі, таксама было ў эпохі нацыянальна-рэформатарскіх рухаў, так было ва ўсе эпохі соцыяльных, палітычных і іншых форм.

Пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі, якая адкрыла адну з найбольш вялікіх эпох у жыцьці чалавецтва, мы маем тое самае зьявішча, якое наглядаецца на працягу ўсяе гісторыі: усе раней прыгнечаныя народы быўшай Расійскай імпэрыі, цяпер як-бы імкнучыся спагнаць страчанае, пачалі хутка разьвівацца, высоўваць сваіх мастакоў, поэтаў, ствараць сваю літаратуру, сваё мастацтва. Тое самае адбылося і ў Беларусі. Да рэволюцыі мы ведалі толькі пісьменьнікаў-адзінак; лік іх быў невялікі і яны не маглі разьвівацца і расьці пад уціскам царскага самаўладзтва. Рэволюцыя ўзьняла цэлыя пласты новых палітычных і культурных дзеячоў, якія вышлі з народа, стварыла шэраг новых культурных пролетарскіх плыняй і організацый. Адной з такіх пролетарскіх організацый зьяўляецца аб'яднаньне поэтаў і пісьменьнікаў „Маладняк“.

„Маладняк“ сьвяткуе ўжо тры гады свайго існаваньня. Зразумела, дата гэта зьяўляецца толькі формальным момантам, толькі адным этапам у гісторыі беларускай літаратуры, таксама як дзень Кастрычнікавай гадавіны зьяўляецца толькі асобным гістарычным этапам у гісторыі барацьбы рабочай клясы; бо перад Кастрычнікам былі раней—1905 г., 1903 г. 1896 г.—цэлая эпоха клясавай барацьбы і сутычак. Гэтыя тры гады існаваньня „Маладняка“ мы таксама адзначаем толькі як гістарычную дату, як пэўны гістарычны момант афармленьня групы „Маладняка“. У сапраўднасьці-ж маладнякоўцы—гэта дзеці Кастрычніка. Гэта організацыя бярэ свае карані яшчэ з ранейшага пэрыоду, пэрыоду непасрэдных боек беларускіх рабочых і сялян. Калі-б „Маладняк“ ня ведаў і ня прыняў грамадзянскай барацьбы рабочай клясы і сялянства з капіталізмам, дык ён ня мог-бы даць нам „Босых на вогнішчы“—Чарота; калі-б Чарот ня ведаў ранейшага жыцьця беларускага селяніна і беларускага яўрэя, ён ня мог-бы напісаць сваёй поэмы „Карчма“; калі-б ён ня ведаў партызанскай барацьбы беларускіх сялян і рабочых, ён не напісаў-бы „Сьвінапаса“; калі-б ён ня ведаў партызанскай барацьбы і ролі ў ёй жанчыны,—ён бы не напісаў поэмы „Марына“.

Апроч Чарота, „Маладняк“ даў Зарэцкага, Дудара, Дубоўку, Александровіча, Бабарэку, Кузьму Чорнага, Крапіву і інш. За 3 гады „маладнякоўцы“ праявілі сябе як вялікая сіла, якая непарыўна расьце, якая ідзе ў нагу з пролетарскай рэволюцыяй, зьвязаўшы з ёю сябе і сваю творчасьць.

Чаго мы патрабуем ад літаратуры наогул і ад організацыі „Маладняка“ ў прыватнасьці? Перш за ўсё мы хочам, каб пролетарская рэволюцыя, барацьба рабочай клясы і яе далейшая творчая праца знашлі-б свой адбітак у нашай пролетарскай літаратуры. Пры гэтым, творы нашых пісьменьнікаў гаворачы аб нашым будаўніцтве павінны па марксысцкі асьвятляць усе праявы жыцьця і барацьбы рабочай клясы, трэба, каб сялянства апісвалася не як нешта цэлае, аформленае (якім яго прадстаўляюць сабе дробна-буржуазныя пісьменьнікі), а каб пісьменьнік бачыў жывыя тыпы кулака, серадняка і бедняка ў клясавым разрэзе, г. зн., каб кулак быў выяўлен іменна, як вораг бедняка і серадняка.

З гэтага першага нашага запатрабаваньня, што літаратура павінна па

марксысцкі асьвятляць усе праявы нашага жыцьця, зьяўляецца і другое запатрабаваньне: літаратура, у прыватнасьці, беларуская, павінна быць нацыянальнай па форме, пролетарскай і інтэрнацыянальнай па зьместу. Гэта значыць, што літаратура, наогул мастацтва, павінны браць сваімі тэмамі ня толькі апісаньне жыцьця Савецкай Беларусі, але і жыцьця капіталістычных краёў і гісторыю чалавецтва ў мінулым. Значыць, беларуская літаратура свае тэмы павінна чэрпаць ня толькі з жыцьця беларускага народу, але і з жыцьця рабочае клясы капіталістычных краёў.

Наша маладое пакаленьне, вучнёўская моладзь не перажывалі царскага рэжыму: вураднiка, абшарніка яна ведае толькі па ранейшай літаратуры; гэтага мала. Таму наша моладзь павінна мець перад сабою яскравыя ўзоры сучаснай эксплёатацыі рабочай клясы ў буржуазных краёх дзеля таго, каб на гэтых фактах барацьбы рабочай клясы з буржуазіяй загартоўваць сябе, вучыцца, рыхтавацца да сваёй будучай працы. І наша літаратура павінна ў гэтым дапамагчы моладзі, падносячы ў той ці іншай мастацкай форме малюнкі інтэрнацыянальнага жыцьця і барацьбы пролетарыяту.

Беларуская літаратура, у прыватнасьці, яе перадавы атрад, аформлены ў організацыі „Маладняку“, павінна мець на ўвазе, што на яе творах навучаецца цэлае пакаленьне моладзі, якое на фактах барацьбы рабочай клясы з капіталізмам, што адбываецца ў інтэрнацыянальным маштабе, павінна выхавацца ў духу нянавісьці да нашага клясавага ворага. Пры гэтым наша літаратура павінна адбіваць жыцьцё ня толькі беларускага рабочага і селяніна, але побач з гэтым і жыцьцё ўсіх нацыянальнасьцяй, што засяляюць Беларусь. І правы Чарот, калі ён у сваёй поэме „Карчма“ апісвае жыцьцё яўрэя-карчмара. Гэтым ён дае правільны малюнак жыцьця розных пластоў яўрэйскага народу, дапамагаючы, такім чынам, зьнішчэньню антысэмітызму, які часам наглядаецца.

Трэцяе, чаго мы хочым ад літаратуры, гэта — каб яна выяўляла ня толькі сучаснае жыцьцё і праявы, але і будучыню. Літаратура не павінна запамінаць пэрспэктываў нашага соцыялістычнага будаўніцтва; — толькі тады яна здолее сапраўды ў поўнай шырыні ахапіць вялізную працу пролетарыяту, якую ё цяпер праводзіць; і толькі тады наша савецкая літаратура, у тым ліку і маладнякоўская, пазбавіцца таго нуднага тону і бурканіны, якія часам у яе наглядаюцца. Дзеля гэтага трэба, каб нашы пісьменьнікі і поэты ведалі ўсю гісторыю барацьбы рабочай клясы ў мінулым, програму і задачы той партыі, якую „Маладняк“ лічыць адзінай партыяй рабочай клясы. Гэта значыць, трэба ведаць вучэньне Маркса, вучэньне Леніна; гэта значыць трэба вывучаць гісторыю ўсіх народаў дзеля таго, каб на аснове гэтага вывучэньня ўмець намаляваць у мастацкай форме будучыню, той камуністычны лад да якога народы прыдуць. Толькі пры такіх умовах наша літаратура ня страціць пэрспэктываў, не заблудзіць ў трох соснах, а будзе правільна намячаць і вырашаць тыя вялізныя падзеі якія зараз адбываюцца.

Гэта ўмова неабходна. І ўсе пісьменьнікі ў розныя гістарычныя эпохі адмалёўвалі жыцьцё ня толькі сёнешняга дню, але і будучыні, так як яна ім прадстаўлялася. Наша літаратура ў гэтым сэнсе таксама павінна маляваць вехі гісторыі, па марксысцку вызначаючы гэту будучыню.

Вось чаго мы павінны дамагацца ад сучаснай літаратуры, якія задачы павінен ставіць перад сабою і „Маладняк“.

Беларуская літаратура вельмі вырасла; мы маем ужо цэлы шэраг такіх твораў, якімі мы маем права ганарыцца, нашы многія пісьменьнікі, як напрыклад Янка Купала, Якуб Колас, Цішка Гартны, Міхась Чарот, Дубоўка і шэраг іншых, вядомы ўжо ня толькі ў межах Савецкай Беларусі, але і далёка па-за межамі. Нельга, аднак, не адзначыць што беларуская літаратура мае яшчэ шмат недахватаў. Выпраўляць гэтыя недахваты, накіроўваць літаратуру на правільны шлях задача крытыкі.

На жаль, мы да гэтага часу яшчэ ня маем у нашай літаратуры досыць шырокай крытыкі, якая, напрыклад ёсьць хоць-бы ў расійскай літаратуры. Таму задачай „Маладняка“ зьяўляецца — выхоўваць ня толькі пісьменьнікаў і поэтаў, але і добрых марксыстых-крытыкаў, якія-б крытыкуючы нашу літаратуру, тым самым дапамагалі-б яе далейшаму разьвіццю. Адсутнасьць крытыкі ў літаратуры зьяўляецца вялікім недах

ватам у нашай працы. Я ня маю, зразумела, на ўвазе крытыку выключна дзеля крытыкі: я кажу аб дзелавой палітычнай і мастацкай крытыцы таго ці іншага твору, якая дапамагае мастаку папраўляць свае недахваты, удасканальвацца, адшліфоўваць свой сьветагляд. Такая крытыка надзвычайна важна, асабліва для маладой літаратуры, якой зьяўляецца беларуская літаратура.

Пры ўсім значэньні „Маладняка" для беларускай пролетарскай культуры, партыя і савецкая ўлада ня лічаць і ня могуць лічыць групу маладнякоўцаў якбы нейкай манапольнай групай у галіне літаратурнай творчасьці. Мы лічым, што для жыцьця і разьвіцьця „Маладняка" трэба стварыць самыя лепшыя ўмовы, выкарыстоўваючы аднасчасна і ўсіх падарожнікаў, якія ў літаратуры ідуць з рабочай клясай. Гэтыя падарожнікі прынесьлі вялікую карысьць рабочым і сялянам у мінулым; яны прынясуць ня меншую карысьць і ў далейшым. Партія і савецкая ўлада ня могуць адмаўляцца ўплываць на гэтых падарожнікаў, а наадварот, павінны імкнуцца да таго, каб яны не адсталі ад жыцьця і разьвіцьця, ад ідэй і думкі рабочай клясы нашага краю і пролетарыяту ўсяго сьвету.

Мы ў поўнай меры ацэньваем вялікія заслугі Янкі Купалы, Якуба Коласа; мы поўнасьцю ўлічваем і цэнім іх значэньне ў літаратуры. Мы цэнім гэтых культурнікаў, якія стварылі многае, многае твораць і шмат яшчэ павінны стварыць у далейшым дзеля абагачэньня нашай літаратуры на карысьць рабочай клясы і сялянства. Няправільна было-б думаць, што савецкая ўлада, падтрымліваючы маладнякоўцаў, адхіляе гэтых дарагіх культурных працаўнікоў. Сваімі адносінамі да розных груп пісьменьнікаў і паасобных адзінак, мы даказалі, што рабочая кляса цэніць і падтрымлівае ўсіх тых, хто сваёй працай дапамагае рэволюцыі.

Літаратура — адзін з найважнейшых элемэнтаў у жыцьці грамады. Буржуазія, раней абсолютызм, яшчэ раней фэўдалізм і г. д. — заўсёды дапамагала разьвіцьцю літаратуры (якая ў сваю чаргу дапамагала ўзмацненьню данага ладу і служыла пануючай клясе). Само сабою зразумела, што цяпер рабочая кляса мае ўсе падставы і права для таго, каб сваю літаратуру, у прыватнасьці, вялікую групу „Маладняк", паставіць у найбольш спрыяючыя для яе разьвіцьця ўмовы. Дзеля гэтага мы павінны абкружаць нашых пісьменьнікаў таварыскай атмосфэрай, звальняць іх ад усякіх іншых абавязкаў, даць магчымасьць нашым самародкам папоўніць свае веды. Як ня можа выйсьці добры інжынэр, вучоны, профэсар без таго, каб ён на час вучобы ня быў звольнен ад усякай іншай працы, так ня можа быць добрага пісьменьніка (профэсара мастацкага слова), калі ён павінен будзе свой час і энэргію аддаваць якой небудзь іншай працы.

Але ў той жа час ясна, што рост пролетарскага мастацтва, літаратуры рабочае клясы, павінен быць забясьпечаны ня толькі нашым моральным і матар'яльным падтрыманьнем, але, галоўным чынам, падтрыманьнем росту паасобных таварышоў.

Адкуль-жа павінен будзе чэрпаць сюжэты для сваіх твораў пролетарскі пісьменьнік з нізоў: з заводу, вёскі, мястэчка. Таму, нашы пісьменьнікі, каб не адарвацца ад рабочай клясы і сялянства, павінны часьцей звярачацца да мас. Я асабіста лічу, што тая сувязь, якая была дагэтуль, зьяўляецца нявыстарчаючай: дзеля таго, каб пролетарскі поэта, мастак адбіваў бы ў кожны даны момант поўнасьцю настроі масы, ён павінен практыкаваць частыя выезды ў вёску, мястэчка, на фабрыку, ён павінен вандраваць, хадзіць пехатою па вёсках, вывучаць настроі працоўных, вывучаць, чым жыве, аб чым думае сёньня рабочы і селянін.

Я-б лічыў правільным, калі-б кожны маладняковец, напісаўшы той ці іншы твор, раней чым занесьці ў выдавецтва, у часопісь, прачытаў бы яго таму пласту, аб якім піша, — рабочаму, комсамольцу, работніцам, селяніну, сялянцы. Калі ён піша аб жыцьці капіталістычнага грамадзтва, аб жыцьці дробнай буржуазіі, ён таксама павінен прачытаць сваё апавяданьне перад рабочай, або сялянскай аўдыторыяй, якая-б сваімі адносінамі да твору, дала-б яму адпаведную ацэнку.

Капіталістычная прэса кажа, што нашы пісьменьнікі пішуць па заказу. Гэта, зразумела, няпраўда. Мы адрозьніваемся ад буржуазнай дзяржавы тым, што даём пісьменьніку, культурніку, поэту поўную волю, бо зусім натуральна, што рабочая кляса будзе выдаваць тое,

што ў яе інтарэсах. З свайго боку мы па адрасу буржуазных пісьменьнікаў можам сказаць, што яны пішуць аб жыцьці ў капіталістых краёх, не заўважваючы тых супярэчнасьцяй, беднасьці, прыгнечаньня рабочай клясы і сялянства, якія маюць месца ў гэтых краёх.

Маё шчырае пажаданьне, каб маладнякоўцы разьвіваліся, мацнелі як па колькасьці, так і па якасьці сваёй працы, і гэтым усё больш і больш пашыралі шлях беларускай літаратуры; гэтым яны будуць знаёміць іншыя нацыянальнасьці і народы Савецкага Саюзу і ра бочую клясу іншых краёў з жыццё бытам, працай і барацьбой, якую вяду рабочыя і сяляне Савецкай Беларусі.

Няхай маладнякоўцы, канчаючы сва культурную і тэхнічную падрыхтоўку будуць гатовы да той вялікай працы барацьбы ў літаратуры, якая стаіць пе рад намі, да якой іх заклікала рабоча кляса.

Няхай яны будуць сапраўднымі вы казьнікамі рабочай клясы ў літаратуры

С. Шушкевіч

# Падслухай шум вясёлае вясны...

Падслухай шум вясёлае вясны,
Падслухай радасьць кожнай жыцьця-
хвалі

І ты забудзешся пра жоўты суму пыл,
Які дарогу радасьці заплямiў.

Падслухай песьню, што ліецца ў шыр,
Паводкаю юнацтва нясутрымнай

І ты убачыш, што зярністы шэры жвір
Табе жарствою здаўся цьмяна-дымнай.

І як развее шумны вецер дым,
Ён стане чорназёмам плёнавітым

І ты, калі ня ўбачыш—жабраком
сьляпым,
Бы торбай, сумам пойдзеш апавіты.

І ашукае, як яго лайдак ліхі,
Цябе твой лёс: дасьць камень заміж
хлеба.

І ты адмераеш сьлядамі ўсе шляхі,
Якіх для ног тваіх ня трэба ведаць.

Падслухай шум вясёлае вясны,
Падслухай сэрца стук абшараў шэрых

І ты ня будзеш, бы ў восень жоўты ліст,
Пад шум васеньні ціха падаць з дрэва.

* * *

Там дзе межы
Поля рэжуць,
На палосках,
Дзе калосься
Нагінаюць стан свой кволы
Да замлі;

На палетку,
Дзе улетку
Плача песьня
Ў паднябесьсі,
Шалясьціць дзе серп
сталёвы
У жняі;

Дзе сасонкі,
Шумам звонкім
На курганьнях,
Ад сьвітаньня
Абуджаюць ў сэрцы
радасьць,
Часам сум:

І дзе жаўрык
Песьні шпарыць,
Ў сініх далях
Паміж хмарак,
Дзе ліецца сонца палкасьць
—Там вясну

Маладосьці
Ў сэрцы госкаў...
Кубак шчасьця
І няшчасьця
Не адзін там выпіў раз я...
Вось затым

Звонка сёньня
Радасьць звоніць,
Бо на гонях
Маіх родных
Шэры змрок паволі гасьне
Залаты

Промень сонца
У ваконца
Нізкай хаты,
Цёмнай хаты
Заглянуў, жыцьцё пакрата
І яно

Шумназвонна,
Неўгамовна,
Бы паводкай
Борздаходкай,
З-за старых, іржавых
крата!
Пацякло...

М. Чарот.

# Зіма



Я ведаю,
што хутка першы сьнег
убеліць той палац,
дзе распрануліся прыгожыя бярозы
і возера,
дзе я на чоўні ехаў,
зіма сярдзітая
надоўга замарозіць.

Мне дзіўна так,
чаму люблю зіму я,
чаму люблю
сыпучы сьнег—пуховую пасьцель...
О, Край вясны,
дзе я цяпер зімую,—
узімку тут
расьце ўсё і цьвіце.

Калі гляджу на лес,
што пахмурнеў і шэпча
ад сьцюжы зімніх дзён
і сьнежнай завірухі,—
здаецца мудрае
сабраць ён хоча веча...
І хоча ён,
каб дум яго
ніхто ня знаў і не падслухаў.

Калі я пагляджам
прастор акіну сьнежны,
каб разгадаць
аб чым сьвішча вецер,—
дык чую я
сьпеў сумны Белавежы,
як галасна
там стогнуць, плачуць дзеці...

О, там зіма!
Там і вясной сьцюдзёна,
ўсе скованы, як рэчкі лёдам...
Вясеньняй восені
чакаюць там штодзённа...
Жыцьцё бяжыць—
зьнікае год за годам.

О, там зіма!
Дні не красуюць маем,—
там край украсілі
шыпшына і бы ьнёг...
І толькі галаву
лес цёмны ўздымае,
галосіць воўкам там
пустэльні дзікай лог.

О, цёмны лес,
о, лог палі-даліны,
прасторы зьлітыя
крывёю чорных дзён!
Ваш горды кліч
ніколі не загіне,—
ён родзіць вам
прыгожае жыцьцё!..

Я ведаю,
ваш кліч нясецца рэхам,
што дзёнь, то новая
расьце ў лясох пагроза,—
таму жыву
жыву ўсягды ўцехай:
бунтарскае крыві—
нішто не замарозіць!

30/XI—1926 г.

Уладзімер Хадыка

## Пуціна срэбная, сінь бору мудрая...

Пуціна срэбная, сінь бору мудрая;
Краіна дзіўная, золатакудрая.

—

У крушнях гінула, журбой спавітая—
Жыцьцё нявольніцы кляла сярдзітае.

—

А парась ціхую віхалі звонамі—
Ї буры водгалас і сны чырвоныя...

—

Званіла вёснамі паўстанцкім бродам гаць:
—Гэй, восень хмурая, даволі збродаваць!

—

Ї ветры гойсалі, і ночы кракалі,
Ї неба рвалася, і хвоі плакалі...

—

Ї кроплі булькалі мотывы новыя
Ї раньне песьцілі гаі кляновыя.

—

Прасторы зыбаліся нязнаным шоламам
А золь мяцежная пісала полымем,—

—

Каб зграя чорная не гайдамачыла...
Старонка любая, ты аджабрачыла!

—

Ї песьні моцныя і думы мудрыя,
Краіна дзіўная, золатакудрая—

—

Настольнік выткала Сярпу і Молату...
Тут жыцьцё вольнае, тут людзі волаты.

## Па вясновым торам

Па вясновым торам
Травянеюць гоні.
Новым пераборам
Вецер у шыбу звоніць.

—

Шалам векавіты
Ходзіць па дарозе.
Чмарыя ракіты
Моляцца бярозе.

—

Зелені гутаньне,
Карагоды кветак
Як вясны каханьне,
Сэрца вабяць гэтак.

—

Сьветлыя спадзеі
Сласна туляць грудзі,
Межы—ліхадзеі
Больш не напракудзяць.

—

Думкі рагазою
Не зьбягуць к бур‘яну
Сябраваць з лазою
Ў верасень ня стану.

—

Буду там, дзе звоніць
Золак раніцовы,
Дзе сьпяваюць гоні
Пераборам новым.

—

А калі з віціны
Ў вечнае схіснуся –
Сэрцам не загіну
Ў песьнях Беларусі.

Быкоўскі

## Дні

Імкліваць дні напорнаю пагоняй,
заф рбаваныя ў чароўныя страі
і кожны дзень нясе сваёй зары
прадоньне
таму і радасьцю нязнанаю гарыць.

А мо‘туга нясе нам новы дзень;
бо радасьць і туга аднэй сту-
паюць сьцежкай—
абедзьве кволыя, як хвалі на
вадзе,
як ноч вясновая з хмялёваю
ўсьмешкай.
Імкліваць дні—спалоханыя коні,
мільгаюць бяз сьледа і радасьці
і сум,
і сеюць раніцай на сінія загоны
туманна-белую празрыстую расу.

І. Дубок.

# Да вольнага жыцьця

**(Сымболічны вобраз жыцьця сялян Заходняй Беларусі)**

Гуляў па лесе жартаўнік вецер, пералятаў з вярхоўкі аднаго дрэва волата на другое, дакаціўся ён да нізкарослага хмызьняку і потым выляцеў на шырокі прастор шырокага поля.

Вольна яму тут гуляць па шырокім прасторы.

Перабягаў вецер з аднаго палетку на другі, дабег і да жытняга палетку, усхваляваў сьпелыя каласкі, закланяліся яны, закалыхаліся аж да маткі зямлі, што аж люба было глядзець.

І толькі ён хацеў перайсьці на шырокія сенажаці, каб пазабаўляцца з рознымі зялінкамі і красачкамі, як убачыў у канцы жытняга палетку дзяўчынку, якая сьпелае жытцо жала і ціха, ціха песьні пяяла.

Спыніўся вольны вецер, змоўк і прытаіўся за бyльнікавымі межамі, каб даведацца, аб чым пяе дзяўчынка.

А пела яна песьні смутныя, нудныя, маркотныя аб сваёй беднай старонцы, дзе так працоўным кепска жывецца, дзе так моцна стогне народ пад прыгонам паноў, дзе штодзённыя гвалты, енкі, сьлёзы бедакоў, дзе рабуюцца і садзяцца за краты людзі, дзе ўміраюць ад катаваньня і мук, дзе няма ясных сьветлых дзён і сьлезы з яе вачэй сыпаліся на зямлю і губляліся сярод густога іржышча.

Доўга дзяўчынка жала, плакала, пяяла. Нарэшце спыніла песьні, спыніла працу, зірнула на пякучае сонейка і загукала.

— Сонейка яснае, пякучае! Пашкадуй мяне круглай сірацінкі. Спалі мяне тут ля роднай ніўкі.

Ці ты вольны вецер узварухніся! Нагані цёмных хмарак, хай пальюць яны дажджамі, хай зьнясуць мяне рышткам



Мітынг ў вёсцы.

ў вольную краіну, мяне сірату дзяўчыну, бо далей жыць мне ня трэба...

Дзяўчынка падняла серп і хацела зрабіць сама сабе самагубства.

Узварухнуўся вецер вольны, выскачыў з-за межаў, загукаў, зашумеў, засьвістаў.

Спалохалася дзяўчынка, выпаў серп з рукі і яна паваліласся на зямлю, згубіўшы прытомнасьць.

Узьнялася бура, засланіла неба цёмнымі хмарамі, затрашчаў, загаманіў волат лес...

І бачыць яна ўва сьне, быццам яе родны брат Міхалка абняў, у вусны пацалаваў і сказаў.

— Сястрыца! Ня плач, ачныся, ня сумуй, я іду да цябе, помсту катам нясу за айца і матку, якіх ужо няма на сьвеце у турме загінулі і нас з табой сіротак пакінулі.

Калі вечар настане, ідзі ў гай, бярозавы лясочак, дзе будзе чакаць цябе твой брат Міхалёчак.

Пацалаваў Міхалка сястру родную зноў і яна адчыніла свае вочы.

— Міхалка!.. Браток!.. Родненькі!.. Ты быў тут. Ты цалаваў мяне, бо я'шчэ адчуваю твой пацалунак на маіх вуснах, які гарыць праменьчыкам яскравага сонца.

Між тым вялізарная навальніца агарнула прыроду. Усё хілае і слабае гінула, усё канчала сваё жыцьцё.

Вецер сярдзіта шумеў, насіўся, як шалёны, бліскала маланка, грымеў гром, ад якога зямля дрыжэла, калацілася.

Сум агарнуў дзяўчыну. Яна падняла серп, зірнула на недажаты палетак і пашла ў зялёны гай.

Але вось прашла навальніца, сонейка зашло і бледныя цені ляглі на зямлі.

Вецер заціх, толькі гай яшчэ цихутка гаманіў, ды водблеск пажару бачан быў. То гарэлі ўладарскія маёнткі, запаленыя кучкаю пакрыўджаных сялян.

Спалохалася дзяўчына, прытулілася яна да волата дуба і задумёная аб перажытым сьне, сядзела нярухома.

Толькі горкія сьлёзы ліліся з вачэй, і думала яна, колькі ўжо ня спала начэй, колькі прышлося цярпець і калі прыдзе гэтаму гору канец...

— Сястрыца родная! Ці знайду я цябе?—пачула яна голас.

— Міхалка! Родны братка!—гукнула яна і больш нічога ня помніла.

Калі яна ачнулася, дык убачыла, што хтосьці нясе яе, як малое дзіцё.

То быў, сапраўды, брат Міхалка.

Разам з ім ішло яшчэ дзьве жанчыны і тры мужчыны, уцекачы з турмаў з-за жалезных крат.

Ішлі яны з Заходу на Ўсход, дзе людзям так вольна жывецца, дзе няма ворагаў паноў, дзе ўсе браты і сёстры, дзе ўсе самі будуюць сваё шчасьце, сваё вольнае жыцьцё.

Тры ночы яны ішлі лясамі, нетрамі-балатамі, на чацьвёртую 'шчэ да раньняй зары перашлі мяжу і былі і пры пагранічнай чырвонай варце.

І думкі былі ў іх аб роднай старонцы, залітай сьлязьмі і кроўю ад прыгону вяльможных паноў.

Веска Сяргеевічы.

**Васіль Вітко**

# Пры гасьцінцы хіліліся вербы

Пры гасьцінцы хіліліся вербы,
каля вербаў спатканьне было.
Дарагая мая, ты павер мне
не забуду пра ваша сяло.

Пяць гадочкаў прашло з таго часу,
загаіліся раны даўно,
але помню спатканьне я наша
не забуду ніколі яго.

Нават імя тваё невядома
і ніхто мне ня можа сказаць,
але люба ты мне, як нікому,
як сястра і як родная маці.

Пры гасьцінцы хіліліся вербы,
каля вербаў спатканьне было,
дарагая мая ты павер мне,
не забуду пра ваша сяло.

А. Якімовіч

## З ЦЫКЛЮ „Хвалі і скалы“



І удар за ўдарам гаварлівых хваляў
У простор бязродны крыўды
шлюць і енк...
Нібы плача моря, што яго скавалі
У глухім бяздоньні з камяністых
сьцен.

Яго сьлёзы пенай на грудзёх зялёных
Буйна расплыліся, як вясновы цьвет.
І гарадь, струменяць срэбныя загоны
І дрыжаць ад грозных ветравых завей.

Я стаю між стромкіх, стройных
кіпарысаў,
Што схілілі кудры да падолу гор.
Мне здаецца мора праглыне карнізы,
Дываном што ўслалі хараства
простор!

* * *

Бязьмежжа ў жаданьнях агнямі гарыць,
Ліюцца жаданьні адно за адным...
Бяздонная радасьць вячэрняй зары
Мігнецца прад сонцам, як горасны дым.

У марах шчасьлівых чакаў я пары—
Спаткаць неразгадны ў таемнасьці Крым...
Ды мары збыліся!..
Жаданьні прайшлі!..
—Даруйце, любімыя кветкі зямлі!

. . . . . . . . . . . . . . .

Зьбягае у цемень з агнямі заліў;
Пазьнікалі дубравы ўзьбярэжных далін
І скалы са сьцёжкамі пудкіх сяліб.
Адна толькі даль прад вачыма імгліць...

Жнівень, 1926 г.

* * *

Дываны сузор'яў апранулі горы,
Патанулі ў хмарах дальнія краі...
Толькі злосна й глуха б'е аб скалы мора,
Быццам хоча раны скалаў загаіць...

---

А. Лясны

## Вечар у горадзе [1]

Вечар...

Змрок павольна расьцілае па зямлі сваю цьмяную тканіну.

Ён ахутвае ў яе будункі, сады, строіць з іх нейкія мары.

Усё ў прыродзе сьціхае. Яна зьбіраецца паказаць іншую карціну, вечна адную, і вечна новую, часам хмурную, часам вясёлую, а заўжды цікавую, заўжды прыгожую, заўжды жывую.

Сьціхае горад...

Ня чутно ўжо таго бразгатаньня на вуліцах. Адное сэрца яго—рынак—змоўкла, цяпер б'ецца другое, б'ецца хутка, моцна, трапыхаецца нібы зьвер у клетцы, вылівае далёка ў паветры сваё тарахценьне, пасылае па драцяным жылам нейкую сілу ва ўсе куткі гораду і ён міргае вачамі сваіх вакон..

[1]) Адрывак з апавяданьня.

За горадам, дзе канчаюцца сады і дамы, дзе вее пах палёў і лугавых кветак, чарнеюць страшлівыя абрысы нейкага нязвычайнага дзівоснага будынку. Гэта стары кляштар. Ён адзінока стаіць тамака на ўзгорку, як сьведка мінулага. Звон бомкае глуха і жудасна ў яго пустых, пашарэлых ад часу мурох—а вакол, разьліваючы прыемны арамат ад белага цьвету, раскінуўся вялікі сад. У ім ня сьціхае ні днем ні ўвечары звонкі вясёлы гоман і рогат хлапцоў з школы сялянскай моладзі.

Пад абрывістым ўзгоркам срабрыстаю стужкай ліецца рака. Старыя вербалозіны пахіліліся да самае вады і аб нечым шапочуць. На ўзгорку над ракою могілкі, дзярэвы, кусты... На разваліўшыхся помніках вабяць вока чырвоныя краскі, тут-жа на траве пасуцца каровы.

З узгорку далёка відаць другі канец гораду, і зноў сады і дамы, паўз рэчку сьцелецца зялёная коўдра сенажацяй, а зірнеш у другі бок—вынікаюць абрысы гарадзкіх будынкаў, мігцяць агні.

— А прыгожа аднаўляецца ваш горад, раней-жа, здэцца і электрычнасьці ня было.

— А Дом Культуры бачыў? Вялікі чырвоны будынак, вось дзе тыя агні..

Новы, нядаўна адбудаваны Дом Культуры горда і шумліва сьвяціўся сотнямі электрычных лямпачак. Яны прыгожа мігцелі ў вячэрняй цішы.

— Сапраўды, як прыгожа!—сказаў Сяргэй любуючыся чароўным выглядам.

— Гэта-ж найпрыгажэйшае месца ва ўсім горадзе. Сядай, братка, на гэтым камені!

Яны селі і павялі нейку доўгую гамонку...

Прырода ўсё больш разгортавала сваё хараство.

На небе зьявіліся зоркі. Іхнія водблескі падалі на ваду і, нібы залатыя кілішкі, танулі ў хвалях ракі.

У далі выстуквала рытмы электростанцыя... Мігцелі агні...

Недзе ў садку салавей выводзіў сваю мэлёдычную песьню.

Лёгкі ветрык сарамліва церабіў галінкі і лісьце кустоў.

З-за гораду выходзіў у сваё начное падарожжа месяц і серабрыў верхавіны дрэў і муры.

Ціха пераліваючыся зьвінелі галасы маладых сяброў.

— Як-жа прыгожа, зірні на раку.

— О, каб і людзкое жыцьцё стала такім прыгожым, як гэта прырода.

— А ведаеш, братка, вось цяпер хацеў-бы зрабіцца поэтам...

Ціха, слухай, нехта гамоніць...

Хлапцы раптам змоўклі, сталі прыслухоўвацца.

Недзе блізка чулася гутарка. Пачулася ціхае бульканьне вады, і праз некалькі хвілін між рачных аганькоў вынік доўгі чорны абрыс—плыла лодка.

На краёх яе відаць было дзьве людзкія постаці. Яны гаманілі так прыгожа-таемна, як гамоніць лёгенькі ветрык у полі з калосьсямі, ці з краскамі ў садзе.

Мерна апускалася вясло. Рака бражджала нешта нікому невядомае і лодка як нейкая дзіўная здань павольна плыла па люстранай вадзе.

Хлапцы зачарованыя гэтым зьявішчам спынілі гутарку і ўпіліся вачыма ў раку.

— Зірні, там Міхась... на беразе гэта ён!— пачуўся голас зьнізу.

— Здароў!..

— А! вось і яны! добры вечар! выходзьце сюды!

— Які харошы вечар! здаецца яшчэ ня было такога ніводнага—сказала дзяўчына выходзячы з лодкі.—Ён проста захапіў нас сваім хараством.

— Праўда, вечар надзвычайна харошы—згадзіўся Міхась,—А вось, мой таварыш Сяргей, будзьце знаёмы!

Яны прывіталіся.

Некалькі хвілін вясёлы гоман гучэў над ракою, адгукаўся ў яе хвалях і зьнікаў недзе ў вячэрнім змроку...

—Ведаешь, Міхась, сёньня ў Доме Культуры літаратурны вечар і здаецца концэрт.

— Дык сходзім!

— Добра, хадзем!

Ізноў загаманілі вёслы і лодка паплыла па вадзе між яе залатых аганькоў.

Праз некалькі хвілін усе трое хлапцоў і дзяўчына падыходзілі к Дому Культуры.

З адчыненых дзьвярэй яго выліваліся на вуліцу яркія праменьні электрычнасьці і шумлівы гоман людзей.

Сябры ўвашлі туды і патанулі ў людзкой грамадзе.

1-XII-26 г. Менск

**Сымон Маскарас**

# КАЛЫХАНКА*)

Шляхам ідзе грамада, ледзь-ледзь нагамі валоча,
Сьпераду, ззаду штыхі,– уцячы ніхто не здалее.
Кожны крок—звон ланцугоў па лесе рэхам нясецца.
А час ад часу з грудзей зрываецца стогн катаваных...
Сьпераду, ззаду штыхі — — —

Сьпі, сыночак, мой маленькі!
люлі люленькі!
сьпі спакойна, мой мліенькі!
люленькі-люлі!

У начы прыйшлі, збудзілі,
бацьку павялі,
Растрасьлі ўсё, перарылі...
люленькі-люлі!

Хутка ўжо будзе сьвітаць, на небасхіле ўжо золак,
Хмары начы ўжо лятуць, усе сьвятлей ды сьвятлее,
Сьвежы падуў вецярок, абвеяў змучаных твары,
Людзі глядзяць на Усход, дзе сонца ўжо зіхацее.
Неба пакрылась крывёй,—зямля крыві мае годзі,
Кожны загон у крыві, усё навокал крывава,
Сьлёзы з крывёй залілі зямельку ўсю, напаілі,—
Чорт у балоце сядзіць, з людзкога гора рагоча...
Людзі глядзяць на Ўсход — — —

Сьпі, сыночак, люлі-люлі!
годзі сьлёзы ліць,
Дай няшчасьненкай матулі
раз бяду забыць.
Ты радзіўся у няволі,
ў путах на нагах,
Кавалём будзь лепшай долі
ворагам на страх.

Загрухацелі замкі, за кратамі ўсіх зачынілі,
Дзень за днём нудна плыве моў каплі дождҗу ў восень,
Родная вёска здалёк тугой душу агартае,
Колькі яшчэ тут сядзець—ніхто ня ведае гэта...
Дзень за днём нудна плыве — — —

Годзі стогнаў, плакаць годзі,
годзі сьлезы ліць,
Бо у кожнай злой прыгодзе
трэба дужым быць.
Бацька твой цяпер ў вастрозе
у сырым сядзіць,
І аб волі, і аб долі
сны свае там сьніць.

Урэшце прышоў дзень суда:—„bandytów sądzić dziś będą“...
Кожны сьпяшыць апрануць сваю чысьцейшую сьвітку...
Хай ўжо нейкі канец, няхай хутчэй ужо будзе,

*) Гэты верш атрыманы з Заходняй Беларусі, дзе яшчэ пануе панскі ўціск над працоўнымі. Аб гэтым уціску яскрава сьведчаць сумныя мотывы ў гэтым вершу.

Сіл ужо болей няма чакаць даўжэй свайго лёсу...
Хай ужо нейкі канец — — —

У начы прыйшлі, збудзілі,
ў поле павялі,
Стрэльбы дружна пахілілі...
люленькі-люлі!..

Бацька твой здалёк ад хаты
сьпіць ўжо вечным сном,
Роднаго свайго сыночка
не пабачыць ён.

Дык, сынок, расьці вялікі,
крыўды, зьдзек цярпі,
Час заплаты недалёкі,—
люленькі-люлі!..

Сьпі, сыночак мой маленькі,
люлі-люленькі!
Сьпі спакойна, мой міленькі,
люленькі-люлі!

**Казлоўскі Вінцусь**

* * *

Дзесьці там, над ракой за палянкай,
Слухаў песьні я сівых бяроз.
Адгадай, маладая цыганка,
Што я сэрцам ў гадох перанёс!
Дзесьці там, над ракой за палянкай.

Адгадай, маладая цыганка,
Што мне ў сьвеце за ўсё даражэй!
Ці-ж па мне закігікала чайка?
Ці-ж па мне мой буланы іржэ?
Адгадай, маладая цыганка!

Гаварыла калісьці ты мне,
Што забуду сваю старану.
Толькі клён ля пахілых сяней
З мілым звонам лісьця ўпамяну
Гаварыла калісьці ты мне.

Дарагая, ня збудзецца тое.
Я паверыць табе не магу.
А жыцьцё-ж расьцьвіло залатое.
А гады ўсё бягуць і бягуць.
Дарагая, ня збудзецца тое!

Выйду-выйду я часам на ганак
Чую мілую песьню дзяўчат...
Ня сумуй сінявокая Ганя!
Ня прыду да цябе, выбачай!
Выйду-выйду я толькі на ганак.

Падыйдзі, раскажу пра чужыну,
Пра матулю тваю раскажу.
Ад чаго сваю вёску пакінуў,
І чаму я па ёй так тужу.
Падыйдзі, раскажу пра чужыну.

І стаіць у задум'і рабіна,
Заплятаецца пальцамі ў сінь...
Толькі падае, падае іней,
Ды шушукаюць сонна лясы.
І стаіць у задум'і рабіна.

Усё заціхла, замоўкла наўкола
І палі загубіліся сном.
Пасівелыя сумныя сёлы
Забыцьця завіваюць вянок.
Усё заціхла, замоўкла наўкола.

Дзесьці там, над ракой, за палянкай
Разлажылі цыгане агні.
І пяе маладая цыганка:
„Палюбіла я вёску, звон ніў
Дзесьці там, за ракой, за палянкай“...



Іл. Барашка

# З цыклю „Замак на возеры“,

*(Паданьне).*



Прыслухайцеся да шопату лісьця адвечных дубоў-волатаў, што веццямі сваймі засланілі ад чалавечага вока празрыстыя ціхія воды возера,—і вы пачуеце шапаценьне аб далёкай мінуўшчыне...

Прыслухайцеся да шэлесту стромкага чароту, што кола зялёнае сабой утварае вакол люстраной паверхні возера,—і вы пачуеце з глыбіні яго грудзей ціха-ціха, ледзь чутны, але затое праўдзівы, сьпеў сівой мінуўшчыне калыханку... І не палохайцеся, калі калыханка навее на вас сум, бо заўсёды так, за сумам надыходзіць і радасьць!..

Ідзіце далей. Станьце тварам да гульлівага ў асьляпляючых праменьнях сонца, і бліскучага мільёнамі дыямантаў возера... Углядайцеся ў чырвона-залацістыя сэрцавінкі белых водных лілей, што так шчодра парассыпаны па-цад зыблістай гладзьдзю возера,—і яны пакажуць вам сваю самабытную прыгожасьць...

Углядайцеся ў шэрыя руіны гам старога замку, што вырас як-бы з вады, пасярод возера—і ў вас зьявіцца патрэба, каб хто-небудзь падказаў штосьці розуму вашаму, каб хто-небудзь задаволіў узбуджаныя нямою веліччу прыроды пачуцьці вашы...

І ідзіце тады да старэнькай бабулі—бабцы лясьніковай. Твар і рукі яе—гэта пажоўклае лісьце адвечнага дубу ў восень... Хустка прыкрывае дзесяць—сто нітачак шэрага, шэрага, павуціньня... Голасу не чакайце, бо яго няма... Магільнае шамканьне ледзь-ледзь чутно з чахлых, з сохлых грудзей...

І дарэмны будуць вашыя стараньні, калі вы адразу распачнеце гутарку пра возера, пра замак пытацца будзеце...

І толькі тады, калі вы зможаце зьвярнуць на сябе бабульчыну ўвагу, калі вы спачуваюча выслухаеце яе спрадвечнае гора і нуду, што—бы камень прыдушыла згорбленую і бяз гэтага ад старасьці сьпіну, калі яна падышоўшы блізка-блізка да вас гляне ў вашыя вочы, сваймі сьлязьлівымі плакучымі вачыма раз, другі, трэці, толькі тады спытайце пра возера, спытайце пра замак...

— Не заўсёды чалавеку і ціхая казка патрэбна... так пачынае бабулька. Яе вочы не глядзяць на вас, о не! Вочы яе ўпіраюцца ў чорную пляму, што на падлозе, і гледзячы на яе, бабулька ўспамінае сівую мінуўшчыну замка, возера...

— Так... Некалі ў замку, на выспе што... жыў князь стары, суворы...

Паганы князь той быў... Стары быў сам—дзяцей ня меў, патомства-ж вечна дамагаўся...

У князевым двары, бы краска, расьцьвіла наймітка князя Гэлька. Прыгожая была... князь заўжды меціў на яе... Прышла пара, і Гэлька ўзяла шлюб з Ігналяй. Ігналя парабкам у князя быў... І ў той-жа дзень да князя Гэльцы трэ' было ісьці... Па праву першай ночы... Пайшла... бо нельга-ж не пайсьці...

. . . . . . . . . . . . . . . . .

А як радзіўся сын, князь загадаў яе ў возера ўкінуць... вунь з вежы той... дзе

бедная пакутвала праз цэлы год, пад князевым замком...

Ігналя ўцёк ад князя—у казакі...

А ў князя рос сынок... падобны кажуць быў да Гэлькі...

— Такі пачатак казкі...

* * *

— І рос князевіч малады... На князя старага ня быў падобен ён...

Кахаў князевіч мужыкоў, бо сэрца мацеры-мужычкі ў грудзёх сваіх насіў... А больш за ўсіх кахаў ён Стэпу—дачку служанкі князевай Галены... ён з ёй гуляў і рос, усё разам у двух... Галена-ж, маці Стэпы, карміла малаком, з сваіх грудзей, князевіча малога Юр'я —так зваць было яго...

* * *

І вырас той князевіч Юры... Ад шчырае душы кахаў ён Стэпу, кахала Стэпа і яго...

І час прышоў... і трэ' было князевічу жаніцца, каб князеў род сваё патомства меў... Абручыны меў справіць князь стары з дачкой суседа—князя Радзівіла... Паклікаў Юрага к сабе, спытаў яго:

— Ці падабаецца табе, мой сын, Анэта? Табе ў жонкі я абраў яе!..

— Не...

— Чаму-ж?

„Адказ такі вось быў:

— Айцец... кахаю Стэпу я... ня хочу я жаніцца на Анэце... пашто айцец жыцьцё мне губіш?..

— Такая воля князя і айца!.. узлаваўся князь...

... Засумаваў князевіч Юры... Пра ўсё ён Стэпе расказаў—калі гушкалі хвалі возера іх човен...

А князь стары задумаўся над гэтым...

— Як можа быць, каб князеў сын, кахаў прыгонную сялянку... і быў такі адданы ёй...

— Не, гэтаму ня быць...

... А сам кахаў ён свайго сына... хоць Юры быў і сынам Гэлькі...

* * *

—Ты, слухай, верны вечна князю... казаў так князь стары свайму адданаму цівуну...

— Як Стэпа будзе спаць... схапі яе... глядзі, каб хто ня ўгледзіў... і ў вежу там тую... ну сам ты ведаеш якую... дзе маці Юрага... ну Гэлька... укінь яе... замкні... а ключ ты мне аддай адзін... другі—хай будзе ў цябе... што ноч ты мусіш есьці ёй насіць... як і раней насіў ты Гэльцы...

— Загад твой выканаю я...

І ціш... і зьнік, як здань з вачэй у князя цівун...

— Ха-ха!.. сьмяяўся стары князь... з Радзівілу сватам быць маім... Я Юрага жаню... а там як хоча ён... ці Стэпу, ці Анэлю...

* * *

І плакаў Юры князь... Ён днямі цэлымі сядзеў у сваіх харомах, што вокнамі на возера глядзелі... шукаючы ў прасторах постаць Стэпы.

А Стэпа зьнікла... прапала Стэпа...

А з ёю разам зьнік і сьмех у Юрага на вуснах, прапала радасьць і вясёласьць...

* * *

Сумна, ой як сумна ў вежы...
Плача Стэпа, а плачу яе ніхто ня ўчуе...
... Ні вокан... ні сонца... ні сьвету...

* * *

— Так кажаш ты, што Стэпы голас чула?!.

— Скуль чуцен ён?..

— Вунь з вежы той...

— А-а!?.

— Ня быць таму, айцец... як сам жадаеш ты... памойму быць... адразу Стэпу скрасьці!..

* * *

А ў замку цемень... ноч...

Ля вежавых дзьвярэй, бы цень, князевіч Юры стаў...

Ні шораху... ні руху...

А ў замку цемень... ноч...

Куранты выбілі апоўнач...

— Бач, нехта крочыць...

— Ш-ш-ш...

— Але-ж і цемень... чуе Юры чыйсьці голас...

— А-а... цівун...

Вось цівун ключ у шчэліну сувае...

Шчолк-раз... шчолк-два...

— А-ах!..

...І нож праткнуў цівуна сьпіну...

* * *

— Сьмялей ідзі... ня бойся... то я з табою...—казаў так Стэпе Юры...

І йшлі...

— Ты пад маёй апекай будзеш... у мяне ты будзеш жыць... са мной...

І йшлі ўсё ніжай, ніжай...

— Забітага цівуна я кіну ў вежу... і замкну...—так разважаў з сабою Юры...

— Дзе-ж цела цівунова?

— Нідзе няма?..

— Няма?..

— Няма...

— Прапала Стэпа... ня жыць і мне...

— Быць гэтаму..—прамільганула думка ў Юр'я...

* * *

— Вяльможны князь... забіты я... ты бачыш сьлед з маёй крыві... выбач ты мне...

— А што?

— Паніч наш Юры... я кахаю... ён Стэпу вывеў з вежы... не ўсьцярог я... ты мне выбач...

— То праўда, цівун?..

— Так, так, то праўда, пан мой князь... сканаў, як пёс, ля князя ног цівун аддадзены пану...

— Ах так?!. дабру ня быць... раз князя воля—то ўсім закон... і нават сыну...

* * *

— Ну, Стэпа... родная... ачніся... ці чуеш голас мой... ня бойся... гэта-ж Юры...

— Што, ты са мной?

— Ізноў са мной?

— Ізноў!..

Яе ён спаць паклаў у сваіх харомах, з сам на варце стаў...

І ў тую-ж ноч:

— Айцец, што робіш ты?..

— Айцец...

— Зьвязаць!.. такі загад быў бацькі-князя.

— Кідай у вакно... у вір... вось так...

— Пусьцеце!.. і Юры, вырваўшыся з рук, з вакна за Стэпай кінуўся ў імглу... у вір... асеньняй цёмнай ноччу...

* * *

...А там ў высі, на вежы, зьвілі сабе гняздо два белых галубы... Адзін з іх—сэрца Стэпы, другі—то сэрца князя Юр'я...

— А стары князь?

— Нядоўга, 'шчэ жыў князь стары... Усё здавалася, што Стэпа з Юр'ем праклёнамі яго вітаюць, і раптам... два белых галубы скрабуць яго кіпцямі да крыві.. і душаць...

— А з ім і род яго загінуў... і разам з ім струхлеў на попел... У замку-ж больш ніхто ня жыў... трухлець і ён пачаў...

* * *

...А казка, 'шчэ ня ўся:

— У замку тым, вунь у вежы той, жывуць да гэтых пор два тыя белых галубы...

— Кахаюцца яны, ніхто ня бачыць іх, ніхто не супярэчыць ім ніколі...

І толькі часам, па-над аброслым мохам замкам, купаюцца яны ў сонечных праменьнях, вітаючы ў прасторах неабсяжных...

— Дык вось, адна з тых казак пра возера і замак... канчае бабка так...

І калі вы ўжо цяпер станеце па-над возерам, пачнеце ўглядацца ў люстраную паверхню возера, пачнеце ўглядацца на руіны замках, нямая веліч прыроды перад вамі зьнікне...

Жудасьць мінуўшчыны пачне агортваць вас...

С. Баркоўскі

# За народную вусную творчасьць!

О, край родны, край прыгожы,
Мілы кут маіх дзядоў!
Што мілей ё ў сьвеце божым
Гэтых сьветлых берагоў.
Дзе бруяцца срэбрам рэчкі,
Дзе лясы-бары гудуць,
Дзе мядамі пахнуць грэчкі,
Нівы гутаркі вядуць,
Дзе пад гоман хваль крынічных
Думкі думае прастор,
Дзе у восень плачуць лозы,
Дзе ў вясну лугі цьвітуць
І шляхом старым бярозы
Азначаюць гожы пуць...

**Я. Колас.**

А. Бабарэка і Ўл. Дубоўка (глядзі „Чырвоны Сэйбіт“ №№ 1 і 2) гавораць, што Кастрычнік стварыў такія спрыяючыя ўмовы, якія даюць магчымасьць нашай краіне накіраваць свае сілы ў бок падняцьця свайго культурнага сьветапогляду. Гэта бязумоўна, так. Зьявілася шмат у вёсках Беларусі маладых пісьменьнікаў. Адны з іх сваечасова ўсебакова адбіваюць жыцьцё вёскі (грамадзкія сьвяты, самагоншчыкі лесапарубшчыкі, вясковую цемру), але з мастацкага боку, тэхнічна няўмела адбіваюць гэта жыцьцё. А сярод другое паловы, як кажа Дубоўка іх „творы з імкненьнем да нейкіх мудраваньняў“. Бязумоўна гэта факт, з якім трэба лічыцца. Паўстае пытаньне, як найлепш скарыстаць гэта вольнае імкненьне да працы ў галіне мастацтва.

Паўстае пытаньне, як скарыстаць гэта маладое імкненьне для працы на літаратурнай ніве. Тут патрэбны некаторыя практычныя парады ня толькі, як пісаць вершы ці апавяданьні, але, нават, як зьбіраць вусную творчасьць сваёй вёскі, свайго раёну і г. д. Вясковая моладзь павінна ведаць аб працы, такіх асоб, як Шэйн, Раманаў, Сержпутоўскі, Дабравольскі, Карскі, Сапуноў і шмат іншых (зьбірацелі і дасьледавацелі беларускае вуснае творчасьці ў даўнейшыя гады).

На наш погляд, увагу пачынаючых вясковых пісьменьнікаў трэба накіраваць у бок этнографіі (вусная творчасьць, якая малюе нам характар, звычаі і іншыя рысы быту народу). Праца па зьбіраньню вуснае народнае творчасьці беларускага народу пачалася прыблізна год 70 таму назад, і ў сучасны момант мы ніяк ня можам пахваліцца, што мы вельмі многа ў гэтай галіне дасягнулі. Матар'ял, які ўжо сабраны за ранейшыя гады, выявіў надзвычайнае багацьце беларускае вуснае творчасьці, ёю зацікавілася шмат розных вучоных расійцаў, палякаў, немцаў і г. д.

Вусная народная творчасьць зьявілася ў той час, калі зьявіўся чалавек, яна служыла яму для таго, каб яго цяжкую працу ў барацьбе за існаваньне зрабіць больш цікавейшаю, каб працаваць колектывам (грамадой) і праз гэта палегчыць гэтую працу.

Паўстае пытаньне ці ведаем мы вусную творчасьць беларусоў? Нам здаецца, што мы яе ня ведаем. Вазьмеце нашы дасягненьні ў галіне этнографіі за апошнія гады. Колькі ні шукайце—акрамя кніжкі Зм. Бядулі „Вера, паншчына і воля ў беларускіх народных песьнях і казках“ і яшчэ некалькі артыкулаў у часопісах „Полымя“ і „Маладняку“, больш нічога ня знойдзеце.

А тыя вясковыя хлапцы і дзяўчаты што шлюць свае вершы і апавяданьні ў „Беларускую Вёску“, ці многа вы знойдзеце сярод іх такіх, якія-б цікавіліся гэтаю справаю? З прыведзеных лічбаў Ул. Дубоўкі адна толькі дзяўчына прыслала ў рэдакцыю сшытак народных песень. Усе ж астатнія „поэты“ лічаць, што справа вывучэньня вуснае творчасьці беларусаў, гэта справа ня іх, а нейкага іншага, а можа аб гэтым хто з іх нават і ня чуў. Праўда нельга сказаць, што ў нас вусную творчасьць ня вывучаюць. Яна вывучаецца Інбелкультам, яе вывучаюць асобныя адзінкі этнографы і краязнаўцы.

Задача сёнешняга дню—уцягнуць у справу зьбіраньня этнографічных матар'ялаў у вёсцы моладзь і шырокія колы грамадзтва. Яе сыстэматызацыя і навуковая апрацоўка. У гэтай справе вясковая моладзь, організаваўшыся ў гурткі і таварыствы краязнаўства, павінна першая залажыць падваліны ў справе вывучэньня народнае вуснае творчасьці. І на падставе сабраных і апра-

цаваных матар'ялаў вясковая моладзь таксама павінна вучыцца і яшчэ раз вучыцца, пісаць і тварыць поэзію сучаснага нам пэрыоду, якая-б давала натхненьне рабоча-сялянскім гушчам у іх барацьбе за лепшую будучыню пад кіраўніцтва комуністычнай партыі.

Трэба адзначыць, што цэлы шэраг цяперашніх беларускіх пісьменьнікаў вучыліся на народнай творчасьці. Дадзім прыклад: „беларускі поэт М. Багдановіч, сын аднаго з лепшых супрацоўнікаў Шэйна, вывучаў беларускую мову, галоўным чынам па „Материалах" Шэйна. („Полымя", 1925 г. № 6, стар. 127).

Наша краіна была доўгі час пад прыгонам. Экономічныя ўмовы зусім ня спрыялі для накапленьня культурных помнікаў. Але нават у такім дрэнным становішчы беларус і тады знаходзіў час для сваёй творчасьці. Народная творчасьць вылівалася ў розныя формы, тут вы знойдзеце вусную поэзію з бытавымі і абрадавымі песьнямі, якія адбіваюць усё жыцьцё беларускага селяніна ад калыскі да магілы. Тут і казкі, прыказкі, загадкі, прыпеўкі, цесна зьвязаны з прыродаю краіны. Словамі пераказаць вусную творчасьць народа вельмі трудна, лягчэй адчуваць песьню, і г. д., і пры гэтым успамінаць усе прычыны, якія яе тварылі. Тады толькі мы зможам зразумець, чаму гэта наша песьня бывае часам такая сумная, чаму ў ёй гэтулькі лірызму, пачуцьця. Чаму ў ёй чуецца, як шуміць сьпелая ніва, шастаюць сярпы, а жняя, як бы „галосіць, долячкі просіць". Чаму ў ёй ёсьць, таксама і радасныя, вясновыя мотывы, поўныя сілы, купальскія, вясельныя і г. д. Або чаму ў казках адбіваецца надзвычайнае багацьце фантазіі, дабрадушны гумар, сьмелая адвага зласьлівая сатыра, злосьць або жорсткасьць у адносінах да паноў, папоў, ксяндзоў наогул шкодных людзей ў грамадзе. Наша народная поэзія мае многа супольнага з поэзіяй далёкіх славянскіх народаў, з боку першабытнага вераваньня, форм сямейнага грамадзкага жыцьця.

Значэньне вуснае народнае творчасьці ў справе нашага сучаснага культурнага будаўніцтва, не адмаўляе ні Ўл. Дубоўка ў сваім артыкуле, які кажа, што сярод маладых вясковых пісьменьнікаў неабходна як сьлед паставіць „працу па запісваньні сучаснай народнай творчасьці: казак, песень, прыпевак, бо якраз гэтыя творы вусныя і зьяўляюцца сапраўдным паказчыкам культурнага становішча вёскі яе імкненьняў, жаданьняў і думак", а А. Бабарэка, нават ідзе яшчэ далей, кажучы, што гэтымі народнымі творамі цікавяцца нават іншыя народы: а іх пісьменьнікі да поэты вучацца на іх, як пісаць і тварыць вялікія мастацкія творы.

З прыведзеных адрыўкаў відаць, што т. т. таксама прыдаюць вялікае значэньне вывучэньню вуснай творчасьці. Толькі яны яе адсоўваюць на апошні плян, што на наш погляд, якраз трэба рабіць наадварот, гэтага нават вымагае само сучаснае жыцьцё беларускае вёскі.

Другая справа ранейшыя гады, тады ня было належных спрыяючых умоў, для вывучэньня. Што мы бачым цяпер? — справа вывучэньня вуснае народнае творчасьці ў нашыя дні далёка не пасунулася, ня гледзячы на тое, што вялікі Кастрычнік сваімі заваёвамі на Беларусі стварыў, гакія культурныя ўстановы, як Інстытут Беларускае Культуры, Дзяржаўны Унівэрсытэт, Сельска-Гаспадарчую Акадэмію і шмат іншых, якім даў шырокую магчымасьць дасьледваць, як сучаснае, так і мінулае Беларусі.

Сучасная-ж нам вёска ня высунула яшчэ да гэтага часу, нікога, хто-б узяўся за зьбіраньне народнае творчасьці і на іх падставе вучыўся.

Вясковая моладзь, зьбірай жа і вывучай народную вусную творчасьць!..



# Бібліографія

## Прыклад вывучэньня вуснае творчасьці.

### Юрка Гаўрук. „Вясковыя рыскі“. Выданьне ЦБ „Маладняка“. 1926 г. Цана 25 кап.

„Вельмі зацікаўлены народнаю творчасьцю, надумаўся я зьезьдзіць летам на вёску ў Случчыну. Случчына—мая бацькаўшчына, і, вядома, мне было куды зручней ехаць туды, як у якое другое месца. Сялянскія песьні папалі ўжо ў вялікім ліку ў шмат таўстыя тамы, але жыцьцё жыве: крыніца быту, то чыстая, то баламутная часінаю, цячэ разьлегла ва ўсялякіх кірунках, а з яе вынікаюць і краскі, карэньне якіх знаходзіцца ў гэтай крыніцы, каляраваныя сокамі, што цягнуць яны адтуль. Песьня карыстаецца бытам, песьня вынікае з быту, але на надта скора бягучай вадзе, таксама, як і на надта глыбокай, няма расьліны, бо вада рухавіта займае і нішчыць насеньне, не даючы яму супыніцца, а хоць і супыніцца, то ня здолее пусьціць карэньняў, каб дастаць сокаў; каб яно затрымалася і пачало расьці, трэба спакайнейшая вада“.

* * *

...„Сялянская песьня вынікае з жыцьця сялян у пагдядзе іх адносін да зямлі, іх узаемаадносін, іх сямейных адносін, і ў сваю чаргу памагае фармавацца іх жыцьцю. У песьні яны выліваюць сваё гора, жаль, журбу, радасьць усё, што болей краніе ў той ці ў другі момант. Песьня памагае рабіць, сваім рытмам аздабляючы працу. Песьня памагае жанкам каратаць доўгія зімовыя вечары, сабраўшыся за прасьніцамі, альбо дзе-небудзь у „магазыне“ пад гэтую песьню ўчыняюць жвавыя скокі“.

Ю. Гаўрук не дае ў сваіх „рысках“ новых песень, хоць 70-гадовая Хвядора Арцёмхавых (з вёскі Шалавічы, Случчына), ад якой запісана каля 400 народных песень, многа іх яму сьпявала. Ён толькі расказвае, як зьбіраў гэтыя песьні. Пры гэтым ён, амаль як у протоколе, апісвае і тых людзей, з якімі сустракаўся, і зямлю па якой хадзіў—езьдзіў, і працу на палёх, якую ён наглядаў. Жывасьць „рыскам“ надаюць байкі і розныя здарэньні, якіх запісана досыць шмат. Наогул, кніжка хоць і занадта расьцягнутая, але цікавая: няма ў ёй захапляючага зьместу, але ёсьць празрыстая „ціхая вада сялянскага жыцьця“, у якую нікому не пашкодзіць акунуцца з галавой, да якой асабліва ўважліва павінны прыглядзецца і вясковая моладзь і студэнтства.

Р. К.

## За волю, за лепшую долю!

### Н. Бываеўскі. Панскі гайдук. Гістарычная хроніка ў 5 дзеях. Цана 55 кап.

Барацьба паміж працоўнымі і гаспадарыўшымі на Беларусі польскімі панамі існуе больш паўтысячы гадоў. Барацьба крывавая, упартая, у якой замучана цяжкай працай і падаткамі сялянства („двухногае быдла“) амаль голымі рукамі нішчыла добра ўзброеныя панскія палкі, дымам і пажарам пушчала па ветру панскія маёнткі, зьнішчала паноў. А там надыходзіла і расплата. Паны падводзілі з Польшчы новыя палкі, у рэчках сялянскай крыві душылі думку аб волі, аб лепшай долі. Але ніяк не маглі задушыць. Замест загінуўшых барацьбітоў выраслі новыя, ізноў пачыналася паўстаньне.

Вось аб гэтых старадаўніх (больш 400 гадоў таму назад) падзеях і расказвае нам Бываеўскі, досыць выразна расказвае, чаму людзі ўцякалі ад паноў у цёмныя лясы, гайдамакамі рабіліся, праўдзівы твар набожнага духавенства паказвае...

Многае ў хроніцы разьлічваецца на сцэнічны эфэкт (п'еса ідзе ў Дзярж. тэатры), губляе сваю прыгожасьць пры чытаньні. Але-ж такі, кніжка чытаецца з зацікаўленасьцю. У дні перамог мы павінны ўспамінаць няўдачы нашых, менш удалых дзядоў і прадзядаў.

Р. Навінскі.

## Кніга жалю і помсты

### Еврейские погромы 1918—1921 год. Изд-во „Школа и Книга“ Москва, 1926 г. Цена 5 руб.

Каб лепш панаваць над рабочым і селянінам, царскі ўрад увесь час нацкоўваў адну частку насельніцтва на другую. Даводзілі працоўным, што яны дрэнна жывуць не таму, што на іх шыі сядзяць паны, папы, чыноўнікі і генэралы, а таму, што ёсьць яўрэі, армяне і іншыя „інародцы“, ад якіх жыцьця няма „рускаму“. Аб усім гэтым яскрава расказвае, багата аздобленая жудаснымі малюнкамі фотографічнымі здымкамі—кніга аб яўрэйскіх пагромах на Украіне і Беларусі.

Пагромы пэрыоду, які тут апісваецца рэзка адрозьніваюцца ад ранейшых пагромаў царскага пэрыоду цэлым шэрагам характэрных рысаў.

Ранейшыя пагромы адбываліся ў мірных абставінах, спакойна і дакладна падрыхтоўваліся царскай ахранкай, праводзіліся ў жыцьцё з некаторай апаскай і аглядкай на цывілізаваную Эўропу, дзе антысэмітызм мае захаваную форму. Пагромы ўчыняліся з такім разьлікам, каб гэта вельмі ня шкодзіла гандлю і прамысловасьці і не парушала ходу нормальнага жыцьця.

Галоўная мэта пагромаў была палітычная, патрэбна было напужаць яўрэйскае жыхарства:

каб адцягнуць яго пролетарскія элемэнты ад рэволюцыйнага руху і адначасна з тэю-ж мэтаю ўзбудзіць пачуцьці нацыянальнае нязгоды і затуманіць клясавую самасьвядомасьць яўрэйскіх і расійскіх працоўных мас. Гэткія пагромы разыгрываліся, як па нотах: усё было загадая разьлічана і прадугледжана; выканаўцамі іх або, у крайнім выпадку, натхніцелямі, заўсёды зьяўляліся пераапранутыя поліцэйскія і шпіёны, чорнасоценцы і профэсыянальныя хуліганы. Улада дзейнічала ўтайкі: яна толькі камандавала і падавала сыгналы да пачатку і спыненьня пагромаў, пры чым у патрэбную мінуту непарадкі раптам спыняліся, і пагромшчыкі таксама раптоўна зьнікалі, як і зьяўляліся.

Зусім іншы малюнак даюць пагромы апісанага ў кнізе пэрыоду; тут улада ня толькі організуе, але і актыўна праводзіць гэтыя пагромы ўзброенай сілай. Мала таго: яўрэйскія пагромы зьяўляюцца нават часткаю вайсковастратэгічнае програмы.

Што гэта праўдзіва, мы можам пераканацца на цэлым шэрагу організаваных па-вайсковаму пагромаў; аб гэтым-жа сьведчаць шматлікія офіцыйныя абвесткі, загады, проклямацыі, бюлетэні і іншыя друкаваныя матар'ялы, прасочаныя атрутай бязьмежнае нянавісьці да яўрэйскага народу, незалежна ад клясаў і груп.

Само па сабе зразумела, што пры гэткіх умовах ужо самы характар, абхваты і тэмп пагромаў востра адрозьніваюцца ад ранейшых: тут мы ўжо на кожным кроку спатыкаемся ня толькі з рабункамі, але і з масавым зьнішчэньнем яўрэйскага жыхарства ў розных мясцох і на розныя спосабы.

У адных выпадках утвараецца пагалоўнае зьнішчэньне яўрэйскага жыхарства у дамох пры дапамове ручных гранат і халоднае зброі (як напрыклад, у Елісаветградзе, Праскураве, Умані і інш.). У другіх выпадках забіваюць толькі галоўных асоб сям'і (напр., у калёніі Трудалюбаўка і інш.). Далей, вырэзваюць пагалоўна адных толькі мужчын незалежна ад узросту (Трасьцінец і інш.). Нарэшце, у шмат якіх мясцовасьцях забіваюць жанчын, старыкоў, дзяцей і хворых, гэта значыць усіх тых, хто менш здольны схавацца або ўцячы.

Але што асабліва зьдзіўляе ў пагромах гэтага пэрыоду, дык гэта мэтодычнасьць і спакойная вытрыманасьць, калі каты робяць свае жудасныя, зьвярыныя справы.

Пагромшчыкі, ведаючы поўную бязкарнасьць, робяць сваю крывавую справу, не сьпяшаючыся, спакойна, нібы якія звычайныя штодзённыя заняткі. Забіваюць, звычайна, халоднай зброяй, якая коле або рэжа; агністрэльная зброя ці разрыўныя снарады ўжываюцца толькі ў выключных выпадках.

Да забойства або ў часе самога забойства ўжываюцца самыя нязвычайныя і жудасныя зьдзекі над няшчаснай ахвярай, іншы раз маючы на мэце выпытаць патрэбныя зьвесткі.

Каб уразумець характар зьдзекаў катаў над безабароннымі ахвярамі, досыць зазначыць што ў самыя трагічныя моманты, калі наўкола ліецца кроў і вазяюцца груды забітых, а тыя, што засталіся жывымі і чакаюць свайго горкага лёсу, галасуюць нечалавечым, шалёным лемантам,—у гэты самы час каты і забойцы, вырадкі роду людзкога, сьпяваюць і гуляюць, упіваюцца горам і пакутаю сваіх ахвяр, прымушаюць гэтых няшчасных сьпяваць і скакаць, выконваць зьневажаючыя загады, даручэньні і іншае.

Што датычыць спосабаў фізычнага катаваньня, дык трэба адзначыць, папершае найбольш часта ўжываемае, асабліва дзенікінцамі, прыпальваньне агнём найбольш далікатных органаў цела, загэтым ідзе прыкладнае вешаньне, з частым аслабаньнем в пятлі, потым ідзе паступовае душэньне вяроўкай, адрэзваньне па. асобных членаў і органаў—носа, вушэй, языка канцовасьцяў і палавых органаў; выкалваньне вачэй, выскубліваньне валасоў з барады, лютае біцьцё бізунамі да паўсьмерці. Апошнія тры віды катаваньня асабліва шырока ўжываліся палякамі ў Беларусі. Нарэшце, пятлюраўцы і бандыты ўжывалі яшчэ тапленьне ў рэчках і студнях, спальваньне і пахаваньне жывых людзей. Да ліку катаваньняў можна таксама аднесьці масавыя гвалты над жанчынамі, часьцей за ўсё- над падросткамі і зусім малымі дзяўчынкамі, прычым усё гэта бяз ніякага сораму рабілася на вачох бацькоў і блізкіх сваякоў. Няшчасная ахвяра пераходзіла ў такіх выпадках з рук у рукі, часта тут-жа паміраючы. Тыя, што выжылі ад гэтае мукі, звычайна атрымлівалі цяжкія вэнэрычныя хваробы і канчалі жыцьцё самагубствам.

## Пагромы ў Беларусі

Беларускія пагромы па свайму тэмпу і размаху падзяляюцца на 3 перыоды. Першы пэрыод—гэта пэрыод параўнаўча «умераных» пагромаў, якія ўчыніла непасрэдна польская армія за 11 месяцаў окупацыі аж да часу адступленьня з Беларусі.

Другі пэрыод—1920 г. адзначаецца большай лютасьцю і прагавітасьцю да крыві. Тут ужо выступаюць белагвардзейскія банды Балаховіча і Савінкава, якія з посьпехам пераймаюць і цалкам ужываюць усе способы барацьбы пятлюраўцаў і дзенікінцаў; нарэшце, трэці пэрыод—гэта проста бандытызм, які даў сябе адчуць у працягу ўсяго 1921 г. Але дзеля таго, што банды Булак-Балаховіча, а таксама бандыцкія шайкі фактычна організоўваліся пад рукою польскага камандаваньня і атрымлівалі ад яго дапамогу, дык усе гэтыя тры пагромных пэрыоды мы, справядліва, павінны назваць „польскімі пагромамі ў Беларусі".

Усяго па Беларусі было зроблена 179 пагромаў (акрамя Гомельшчыны, дзе было 29 пагромаў). Кніга дае жудасныя здымкі гэтых пагромаў, здымкі сьведчаць аб крывавым балю паноў сярод местачковага і гарадзкога насельніцтва.

...Выдумліваючы розны способы лютасьці і зьдзекаў над яўрэйскім жыхарствам, ганоровыя паны дадумваліся да такіх забаў, як прывязваньне старыкоў яўрэяў да конскіх хвастоў або ўпраганьне яўрэяў у калёсы замест коняй і язда на іх па горадзе на ўцеху людзям. Трэба адзначыць, што падобныя зьдзекі, між іншым мелі месца ў Мэнску, у сталіцы Беларусі, дзе яўрэі складаюць большасьць жыхарства і адыгрываюць вельмі відную ролю ў гаспадар-

чым, палітычным і грамадзянскім жыцьці гораду...

Трэба яшчэ зазначыць на прымусы пад пагрозаю пабоеў, каб яўрэі скакалі, пелі і крычалі: „Няхай жыве Польшча!...“ Польскія зьдзекі былі нагэтулькі цяжкія, што шмат хто лічыў за лепшае сьмерць і часта атрымлівалі гэтую сьмерць ад рук польскіх катаў....

...Што датычыць кваліфікаваных пагромных учынкаў, дык да іх належаць, галоўным чынам, рабункі, падпальваньне і гвалты над жанчынамі. У тых мясцовасьцях, у якіх знаходзіліся транзітныя пункты, рабункі ўчыняліся бязупынна ў працягу многіх месяцаў. Палякі забіралі ня толькі адзеньне, бялізну і абуцьце, але таксама і мэблю і нават розныя хатнія рэчы, прычым усё гэта адкрыта і арганізаваным парадкам нагружалася на фурманкі, перакідалася ў вагоны і перасылалася ў Польшчу; тое, што нельга было вывезьці, зьнішчалі тут-жа, на месцы. Праз такі дзікі рэжым польскіх окупантаў, яўрэйскае жыхарства гэтых мясцовасьцяй страшэнна абяднела, згубіўшы амаль усю сваю маемасьць. Асабліва шмат шкоды прынесьлі шматлікія пажары, якія ўзьнікалі ў гарадох і мястэчках ад рук палякаў. Гэтыя зьдзекі мелі на ўвазе карныя і тэрорыстычныя мэты і зьяўляліся страшэнным нішчэньнем для яўрэйскага жыхарства Беларусі.

## Палякаў зьмянілі балахоўцы

### Зьдзекі балахоўцаў:

Абрабавана 20 тысяч 550 чалавек. Забіта больш 300 чалавек. Згвалтавана больш 500 жанчын.

Жудасныя лічбы!

**Адносіны неяўрэйскага насельніцтва** к гэтым пагромам амаль усюды былі ворожыя. Яно, нават, часткова дапамагала хавацца яўрэйскаму насельніцтву, ратавала недабітых.

**Агульнае ўражаньне:** Жудаснае. Разам з тым мацнее воля каленым жалезам выпячы бандытызм, калі яго ізноў уздумае разводзіць на Беларусі панская Польшча.

**Добра зразумела і само яўрэйства**, што нясе яму панская ўлада. Не дарма ж у Мазыры доктар адкрыта заявіў Савінкаву:

— Чырвонаармейцы 5 разоў занімалі Мазыр, але пагрому ні разу не дазволілі.

— Бо задача Савецкай Ўлады—дапамагчы местачковаму і гарадзкому яўрэйству навучыцца працаваць на зямлі, куды ня пушчала яўрэяў царскае правіцельства, зрабіць з карчмара Шлёмы (глядзі «Карчму» Чарота) прыкладнага гаспадара.

**Беларус**

# „Пойдзем піць прыгожасьць сонца і вясны“

**ВАЛЕРЫ МАРАКОЎ. „Пялёсткі“ (вершы) Менск. Выданьне ЦБ Маладняка, 1926 г. стар. 38. цана 25 к.**

*Маладыя* беларускія поэты і пісьменьнікі, ня раз давалі нашай грамадзкасьці высокія ўзоры сваіх поэтычных твораў.

Вышаўшы зборнічак вершаў В. Маракова „Пялёсткі“, ёсьць передрук, яго вершаў з часопісаў „Чырвоны Сьцяг“, „Полымя“ і „Маладняк“.

Да гэтага зборніка мы маем права прад'явіць два галоўных запатрабаваньні: ідэолёгічная яскравасьць і мастацкая праўдзівасьць. Нам здаецца, што само сабою зразумела—вершы павіны таксама задавальняць і вызначаным формальным патрабаваньням сучаснай поэтычнай тэхнікі. Пачнем з апошняга.

Калі вы пачынаеце чытаць „Пялёсткі“, Валерыя Маракова, вам у яго вершах асабліва кідаецца ў вочы тэхнічная культурнасьць аўтара: жывы радок, ня зьвязаны мёртвым мэтрам, уласная рыфма, частныя і ўдачныя алітэрацыі, музыкальнасьць композыцыі. У шмат якіх месцах, яго вершаў можна сустрэць моцна стылізаваную вобразнасьць. У вершы „Дзяўчыне“, чытаем:

„І так пішу... ізноў пішу з натхненьнем
твой васілёк перада мной ляжыць.
А за вакном снуюцца і танцуюць цені,
Упаў срабрысты месяц на калені,
стаў цалаваць магільныя крыжы“.

У другім яго вершы „Пеў пякучыя песьні“, В. Маракоў дае нам такую стылізаванную вобразнасьць:

„Пеў пякучыя песьні свае салавей,
кучаравая ліпа драмала;
На прасторы палёў і жытнёвых завей,
Там, дзе песьня да шчасьця і волі заве,
Маладая дзяўчына сьпявала“.

Вобразаў поэзіі В. Маракова многа і вобразы яго носяць характар выражэньня пачуцьцяў. У вершы „Зялены месяц“ ён піша:

„Ой месяц... месяц над ракой
Устае, сьмяецца, б'е паклоны,
І ночка сінім васільком схіліла твар свой на загоны“.

Мастацкасьць В. Маракова ня ёсьць канчатковая мэта, а толькі сродак для дасягненьня вобразу.

Словы, якія ён выказвае ў сваіх вершах, выяўляюць думкі і пачуцьці, яны і будуюць патрэбны вобраз. В. Маракоў ў сваіх вершах перажывае кожнае слова, пры дапамозе яго ён вылівае сваю душу, напоўненую радасьцю, то сумуе з чым небудзь. У вершы: „О, каменьне замоўкла“, В. Маракоў кажа:

„Усе трывогі—глупства, трэба зьнішчыць іх
Каб квітнела шчасьце ў нівах дарагіх,
Каб над роднай вёскай, на прастор сівы
Пралілася песьня кветак і травы.
Вось затым сягоньня ў радасьці бягу,
І уліваю ў сэрца нашых дзён разгул!“

А ў вершы „О, мой любы дружа“.

„Ну дык, любы дружа, мы цяпер адны,
Пойдзем піць прыгожасьць сонца і вясны“.

Аб сваёй творчасьці і аб сабе В. Маракоў гаворыць у наступных радкох, якія памагаюць зразумець яго творчы шлях:

„Я, сын вясны пад яркім сьветам,
Люблю жыцьця прастор і шыр
Затым, што сонца б'е поэту
Паклоны новых слоў душы:
Затым, што ў даль над шэрым полем

Задорны сьмех ліе вясна...
Такой парой па-над раздольлем
Душу я выляю да дна".
(„Над сінім лесам").

Асноўныя мотывы яго лірыкі—любоў і захапленьне жыцьцём. У беларускай сучаснай поэзіі ёсьць шмат чырвонашчокай моладасьці, многа юнацкага чванства, але няма вытрыманых з боку формы, зьместу і ідэолёгічнага напрамку вершаў.

„Пялёсткі", В. Маракова сьведчаць нам аб тым, што аўтар з тэхнічнага напрамку многім аўладаў і пры далейшай працы над сабой з яго выйдзе добры тварэц поэзіі. Аб яго далейшым творчым шляху, гаворыць яго зборнічак вершаў.

К хібам яго зборніка трэба аднесьці, перш за ўсё старану ўнутраную, у некаторых яго вершах заўважваецца вычурнасьць. В. Маракоў таксама хварэе „ўсесаюзнаю хваробаю", надражаньнем Есеніну. Дадзім прыклад, у вершы „Эх, палі", чытаем:

„Я прышоў, засьмяяўся, заплакаў
І на грудзі асіны прылёг,
А яна як прапашчы гуляка,
Прытулілася ціха бяз слоў!"

Тэма вершаў В. Маракова і іх зьмест—каханьне, прырода, сум, юнацкае захапленьне і г. д. Думкі свае ён разьдзяляе іх з тымі, „што з подыхам сьвітаньня імкнуцца ў радасную даль".

**С. Баркоўскі**

# А дзе-ж грамадзкасьць?

**Валеры Маракоў. „Пялёсткі". Вершы. Выданьне ЦБ Маладняка. Менск, 1926 г. Цана 25 кап.**

Так званае ўпадніцтва, або дэкаданс, пачынае, нажаль, расьцьвітаць у нашай новай поэзіі. Ёсьць гэта і ў „Пялёстках". Трывожныя нотки пачынаюць гучэць у В. Маракова („і ня чую скаргу, вострага, як нож, што другіх бяз жалю я скасіў даўно"), далей настрой усё панураецца і зборнік канчаецца вершам, пасьля каторага, разважаючы лёгічна і прымаючы пад увагу шчырасьць, на якую Маракоў напірае ў шмат якіх месцах зборнічку, яму застаецца... самагубства.

Першае, што задзіўляе нас у зборнічку (і ў чым крыецца прычына ўпадніцтва), гэта поўная, блізка адсутнасьць грамадзкіх мотываў. Бо нельга-ж лічыць за грамадзтва тых „хлапцоў" і „братцоў", да якіх часам зварачаецца поэта. Ён адарваны ад грамадзтва, і. калі і імкнецца, дык да другога, такога самага, як ён, чалавека, каб разам з ім уцячы да прыроды.

„Ну, дык любы, дружа, мы цяпер адны
Пойдзем піць прыгожасьць сонца і вясны
. . . . .
Дзе зьвініць і плача залатая шыр,
Так прывольна разам на пpacтopax жыць.
Дзе сьвятлей пад сонцам, дзе званчэй душа
Дзе ня так трывожна адбівае шаг".

У другім вершы ён кажа:

„Я пайду і для кветак у полі.
Буду пець... усьміхацца і жыць,
Буду знаць я, што часу і сілы
Ня губляў у гэтым сінім жыцьці".

А дзе-ж грамадзкасьць?

Але Маракоў знае, что аднаму, хоць-бы і з блізкім другам ці з прыродай, адарваным ад грамадзтва, быць нельга, хоць і выйсьця з гэтага ня знае:

„Што-ж бывайце, асіна і поле;
З вамі жыць я адзін не магу.
Не магу!.. Не магу!.. і ня знаю,
З кім дружыць і каго абнімаць,
Ці забыцца на сінім кургане,
Ці каменьне зубамі ламаць"!

На змаганьне ў яго дужа прымітыўны погляд: ён хоча, каб „змагацца было сьвятлей і ярчэй, а штодзённае змаганьне, змаганьня ў поце твару ня прымае.

Ня любіць Маракоў гораду, і імкнецца да вёскі:

„О, каменьне замоўкла, каменьне маўчыць,
Яно цёплага слова ня скажа,
Калі так, я хачу між палёў адпачыць,
Хай палі мне пра сонца раскажуць".

Аб горадзе піша:

„І тады ўсё ўздыхне, сьмела, шчыра ўздыхне,
Сваю радасьць сьпяе для Айчыны,
І каменьне, як сьмецьце між палкіх агней
Каб згарэлі, навекі пакіне"!

Няпрыхільнасьць да гораду відна з вершу „Адрывак". У вершах Маракова няма працоўнае вёскі, яго цягне адно вясковая прырода. Але і яна не здавальняе поэту канчаткова: бывае, што яму „нават цяжка дыхаць у палёх".

Аўтар замкнуўся у сваю асобу і прыроду. Ён кажа, „што ў яго" толькі сілы няма і поўнай волі (толькі!), і тое-ж паўтарае ў вершы „Эх ты, поле" („толькі сілы ранейшай няма"). Пад уплывам гэткага бясьсільля нездарма яму хочацца па Лермантаўску „забыць усё і адпачнуць".

Як завяршэньне ўсяго гэтага, у Маракова выпрацоўваецца безнадзейны пэсымізм. Спачатку ён кажа, што „часта быў бяз надзей", пасьля прызнаецца, якія ён меў надзеі:

„Мо' ня жалейцы хоча марш хаўтурны граць
Усім надзеям брудным і няўдалым"!

Здаецца яму, што і „дзяўчаты з гадамі пагасьлі", што „больш ня будуць сьмяяцца яны". У сваёй безнадзейнасьці Маракоў дакочваецца да крайніх межаў:

„І цяпер хай праплача ад болю,
Усё, што хоча з надзеямі жыць
Бо ўжо хутка над лесам і полем
Маім песьням ня будзе мяжы".

Але самы гучны ўпадніцкі акорд—гэта апошні верш зборнічка:

„І так усё... усё праляцела,
Чым сэрца некалі жыло:
І над далінай гэтай белай,
Іду, як мёртвы за сяло"!..

І далей—

„Даволі сэрца маладое
Душылі вы ў маіх грудзёх".

Кідае няма ведама каму Маракоў,

„Дзе сьцелюцца туманы
З асінай бруднай падружыць,
Каб не паачуць перад сьвітаньнем,
Аб чым пяюць штодня крыжы...

Такім чынам, Маракоў звальвае прычыны свайго ўпадніцтва на перагасу мінулага, на песьню крыжоў.

Аўтар, як відаць, адарваны ад жыцьця. Рытм

у вершах набліжаецца да мэтру. Пераважная большасьць вершаў напісана амаль чыстым ямбам і анапэстам. У строфіцы пераважае чатырохрадкоўе, часам двохрадкоўе, радзей—іншыя віды.

Перад В. Мараковым задача—увесьці іншыя, сьветлыя мотывы ў сваю поэзію, бо па сіле та[ленту] навітасьці творчасьць яго падае вялікія надзеі.

**Ант. Адамовіч.**

АД РЭДАКЦЫІ. Гэтыя рэцэнзіі дапаўняю[ць] адна адну. У першай найбольш даецца ацэнка [с]стацкасьці поэзіі Валерыя Маракова, у друг[ой] ацэнка зьместу яе.

---

Першыя тры нумары „Чырвонага Сейбіту“ выклікалі вялікую зацікаўленасьць крытыкі, як на старонках „Звезды“, „Савецкай Беларусі“, так і розных часопісаў і акруговых газэт. Як і належыць быць, больш за усё крытыкі спыніліся на адмоўных баках.

Каб стала адказаць усім крытыкам патрэбна было-б заняць гэтым большую частку „Чырвонага Сейбіту“. Таму адказваем коратка:

Рэдакцыя „Чырвонага Сейбіту“ згаджецца з думкамі „читателя“ ў № 280 „Звезды“, згаджаецца з крытыкамі, што хібы й недахва[ты] у працы ёсьць. Разам з тым, рэдакцыя рашу[ча] протэстуе супроць імкненьня некаторых кр[ы]тыкаў (напр. Алёша ў „Сав. Беларусі“) будава[ць] свае фэльетоны на тэхнічных памылках, „[у] пічэпку знаходзіць прычэпку“ і на імкнень[ні] знаходзіць памылкі там, дзе іх няма.

Правільная крытыка дапамагла й дап[а]магае знаходзіць правільную лінію ў працы.

**Рэдакцыя „Чырвонага Сейбіту“**

---

# Папраўкі.

У № 3 „Ч. Сейбіту“, у артыкуле Р Шукевіча-Трацьцякова на стар. 5, у 9-м радку пасьля слова „Адысэя“ трэба чытаць „сучасныя іх эпохі“.

У тым-жа нумары, у час вёрсткі, па тэхнічных умовах не ўвашоў у нумар кавалак набору артыкулу А. Бабарэкі, ад чаго ў некаторых мясцох артыкулу зьмяніўся сэнс. Таксама пры вёрстцы не ўвашла увага рэдакцыі, што артыкул Бабарэкі зьмяшчаецца як дыску[с]сыйны.

# Паштовая скрынка.

**Блёкату, Шылаву, Чыгіру** К., **Драздоўскаму, Ул Адамовічу, Палыну, Л Касьціцкаму П. Бар.** Вершы не пойдуць.

**Савіну** Апавяданьне «Ноччу» не пойдзе. Слаба распрацованы сюжэт.

---



**У мястэчку Смалявічы будуецца новы Нардом.** (Па фотографі селькора Нортмана)

Галоўлітбел № 22755 Адказны рэдактар Шукевіч-Трацьцякоў